


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 1 (244) СТУДЗЕНЬ 2018 ГОДА

**БЕЛАРУСКІЯ АФАРЫЗМЫ**

*Дзе разбураюцца асновы ладу, усталяванага паміж людзей, – там немінуча ўсё ідзе к распаду*

*Ніл Гілевіч*

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ЦЯЖКАЕ ПАХМЕЛЛЕ

**На навагодняе свята, як было неаднойчы, Беларусь засталася без снегу і лёгкага марозіку. Гэта крыху сапсавала настрой, бо мы да іх прызвычаены, яны бадзёраць і радуюць. У астатнім усё прайшло традыцыйна, у кватэрах і дамах родныя, блізкія людзі абмяняліся сардэчнымі віншаваннямі і пажаданнямі.**

Свята са шчодрымі застоллямі адгуло, але праблемы, якія нас клапоцяць, засталіся. Нікуды не сышлі абставіны, у якіх мы жывем. Чалавек, апраўдваючы ўласныя паводзіны, часта кажа: «Такі быў час! Я нічога не мог зрабіць…» Тады атрымліваецца, што толькі пад прымусам абставін нехта няшчадна эксплуатуе, паклёпнічае, піша даносы, шукае ворагаў, катуе і расстрэльвае. Але гэта няпраўда, бо той ці іншы час ствараюць людзі.

Час, у якім цяпер жывем мы, насельнікі Беларусі, выявіўся для звычайнага чалавека не толькі матэрыяльна, але і маральна цяжкім, татальна несвабодным, здзекліва несправядлівым. Адкрытым тэкстам пра гэта пачалі гаварыць тысячы абураных грамадзян. Але большасць яшчэ да канца не ўсвядоміла сутнасць сваёй жыццёвай драмы.

Сучасныя людзі лічацца прагматычнымі, ды гэтае сцвярджэнне не распаўсюджваецца на беларусаў. Мы навучыліся лічыць уласныя грошы, бо з-за невыводнай беднасці трасемся над кожнай капейкай, але не ўмеем берагчы і разумна выдаткоўваць агульныя сродкі. Народ ніяк не можа ўцяміць, што аўтарытарны рэжым абыходзіцца яму намнога даражэй, чым дэмакратычнае кіраўніцтва, што бюджэт выкарыстоўваецца нерацыянальна.

Дваццаць тры гады існавання пры аўтарытарызме паказалі, што, нягледзячы на змены да лепшага ў побыце і ў атрыманні паслуг, развіццё пэўных кірункаў у навуцы і медыцыне, рост камфортнасці жылля і дарог (пры дапамозе пераважна замежных тэхналогій), мы так і не маем эфектыўнай, стабільнай эканомікі, не прасунуліся наперад ва ўмацаванні самой нацыі, застаемся ў крыху падмарафечаным, але савецкім мінулым.

Сусветны прагрэс у эканоміцы дазваляе сёння кожнаму народу дамагацца выдатных вынікаў, ды наша краіна, маючы надзвычай спецыфічнае, рэтраграднае кіраўніцтва, якое баіцца палітычных дэмакратычных змен, выкарыстоўвае яго выбарачна, з аглядкай.

Яднання грамадства, пра якое трубіць прапаганда, у нас няма. Наадварот, адбываецца яго радыкальны раскол. Аўтарытарный уладай задаволены толькі каля трыццаці працэнтаў насельніцтва. У першую чаргу гэта правіцель, які кайфуе на троне і не жадае яго пакідаць, затым ідуць чыноўнікі, дэпутаты, сілавікі, прадстаўнікі розных засакрэчаных службаў, банкіры, прыўладныя бізнесоўцы, спецыялісты, што ўладкаваліся ў замежныя фірмы. Але ж ёсць яшчэ 70% звычайных грамадзян, якія кінуты ў прорву нялёгкага выжывання.

Курс на бясконцае ўтрыманне ўлады вымушае правіцеля мець агромністую колькасць супрацоўнікаў міліцыі і спецслужбаў для падаўлення народных пратэстаў. Паводле звестак ААН у 2013 годзе ў Беларусі было 1442 супрацоўнікі МУС на 100 тысяч насельніцтва, што ў 6 разоў перавышае паказчык былога СССР. Праўда, кіраўнік МУС абвяргае гэтыя дадзеныя і заяўляе пра 405 міліцыянераў (без унутраных войскаў і спецыяльных падраздзяленняў) на 100 тысяч грамадзян, але праверыць названую лічбу немагчыма. У нас ёсць шмат сфер, на якіх стаіць пячатка строгай сакрэтнасці, хоць у дэмакратычным свеце такая інфармацыя даступная грамадзянам. Увогуле, для разумення сітуацыі трэба ведаць, што ў 2017 годзе ў Кітаі было — 120, у ЗША — 256, у Польшчы —264, у Літве — 349 паліцэйскіх на 100 тысяч насельніцтва.

Ваенны саюз Беларусі з Расіяй, яўны ухіл на мілітарызацыю, пераўзбраенне

*(працяг на стар. 2)*

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

З ЗАЛЫ СУДА

# ДВА НЕПАЎНАГАДОВЫХ НАКІРАВАНЫ Ў КАЛОНІЮ

**Суд Гарадоцкага раёна 23 лістапада асудзіў па ч. 2 арт. 214 КК Рэспублікі Беларусь двух 17-гадовых жыхароў г.п. Езярышча, якія ў стане алкагольнага апьянення здзейсілі спробу згону аўтамабіля ВАЗ-2107, да пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады 6 месяцаў з адбываннем пакарання ў выхаваўчай калоніі.**

Старэйшы памочнік пракурора Гарадоцкага раёна Наталля Левянкова паведаміла, што падчас судовага пасяджэння было ўстаноўлена, што ўвечары, пасля выпітых бутэлькі гарэлкі і піва, непаўналетнім сябрам захацелася пакатацца на машыне. Але транспартнага сродку ні ў каго з іх не было. Тады хлопцы вырашылі прагуляцца па вёсцы пешшу. Аднак, убачыўшы на адной з вуліц ВАЗ-2107, які стаіць каля дома мясцовага жыхара, вырашылі сагнаць дадзены аўтамабіль, каб усё ж такі пракаціцца з ветрыкам. Толькі праў на кіраванне аўтамабілем у іх не было.

Пасля няўдалых спроб адкрыць дзверы машыны, адзін з хлопцаў каменем разбіў шкло пасажырскай пярэдняй дзверы, пасля чаго адкрыў дзверы праз разбітае шкло. Спробы хлопцаў завесці машыну не скончыліся поспехам. Маладзёны толькі паспелі адштурхнуць яе на некалькі метраў да дарогі. Неўзабаве яны ўбачылі, як хто-та па вуліцы ідзе ў іх бок. Спалохаўшыся быць пайманымі на месцы злачынства, гора-згоншчыкі паспрабавалі збегчы. Аднаму гэта ўдалося, а другі не прыдумаў нічога лепшага акрамя хавання ў машыне.

Падышоўшы да аўтамабіля, уладальнік ВАЗа ўбачыў, як на двух пярэдніх сядушках спіць нейкі мужчына, пры гэтым твар яго было закрыты рукой. Уладальнік аўтамабіля не стаў будзіць згоншчыка, а вырашыў адразу выклікаць міліцыю. Аднак пакуль мужчына зайшоў дамоў і выклікаў супрацоўнікаў Гарадоцкага РАУС, «спячы» злачынец паспеў збегчы. Якое ж было здзіўленне ўладальніка аўтамабіля, калі ён даведаўся, што згоншчыкамі апынуліся непаўнагадовыя хлопцы, якія жывуць з ім у адной вёсцы.

Толькі яшчэ большае здзіўленне выклікае той факт, што адзін са злачынцаў летам 2017 года ўжо быў асуджаны за крадзеж транспартнага сродку, прычым таго самага ВАЗ-2107, які належыць жыхару г.п. Езярышча. Тады непаўнагадовы хлопец быў асуджаны па ч. 1 арт. 214 КК да пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 1 год з адтэрміноўкай выканання пакарання на 1 год. Аднак малады чалавек не зрабіў для сябе належных вывадаў і праз некалькі месяцаў пасля асуджэння зноў у стане алкагольнага ап'янення здзейсніў паўторнае злачынства.

Суд пры вынясенні прысуду і вызначэння пакарання непаўналетнім правапарушальнікам уліўчыў, што раней абодва прыцягваліся да крымінальнай адказнасці. Адзін з іх толькі ў пачатку 2017 год вызваліўся з выхаваўчай калоніі, дзе адбываў пакаранне ў выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі. Другі праз некалькі месяцаў пасля асуджэння з адтэрміноўкай выканання пакарання зноў здзейсніў злачынства. Пры гэтым абодва абвінавачаных на момант здзяйснення злачынствам знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Улічваючы ўсе якзмякчальныя, так абцяжарваючыя адказнасць абвінавачаных абставіны, характарыстыкі абвінавачаных, суд прыгаварыў 17-гадовых згоншчыкаў ВАЗа да пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады 6 месяцаў з адбываннем пакаранні ў выхаваўчай калоніі.

**Пераклад з расейскай рэдакцыі сайта**

ЗДАРЭННЕ

# ЗЯЦЬ ПАГРАЖАЎ ЗАСТРЭЛІЦЬ ЦЕШЧУ

**У запалу сваркі малады чалавек дастаў пнеўматычны пісталет і прыгразіў цешчы расправай. Тая спалохалася не на жарт і выклікала міліцыю. Гэтая крымінальная гісторыя ў пасёлку Бычыха Гарадоцкага раёна здарылася яшчэ ў канцы лістапада.**

Зараз праверка завершана - у дачыненні да 25-гадовага сямейнага скандаліста ўжо ўзбуджана крымінальная справа па факце пагрозы забойствам. Падрабязнасцямі інцыдэнту падзяліўся афіцыйны прадстаўнік УУС Віцебскага аблвыканкама Віталь Сапроненка: - Вясковец нідзе не працуе, жыве разам з жонкай, маленькім дзіцем і цешчай. У той вечар ён быў п'яны і запатрабаваў у хатніх ключы ад іншай кватэры - там ішоў рамонт. Сабраўся нібыта ісці туды спаць. Выдаць ключы яму адмовіліся, і ён учыніў скандал. У якасці апошняга аргументу выкарыстаў пнеўматычную зброю, паабяцаў пусціць кулю цешчы ў лоб. І хоць пасля экспертыза паказала, што зброя была недзеяздольным, на той момант хатнія ацанілі пагрозу як цалкам рэальную.

Пісталет, як распавёў абвінавачаны, ён калісьці прывёз з Расеі. Раней хлопец судзімы не быў, але па тым артыкуле Крымінальнага кодэксу, які яму інкрымінуецца сёньня, ён можа пазбавіцца волі на тэрмін да двух гадоў.

**Алена Бегунова**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

*************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

*(пачатак на стар. №1)*
арміі таксама вымагаюць значных бюджэтных сродкаў.

Шмат грошай выдаткуецца на ўтрыманне чыноўнікаў, якія забяспечылі сабе лепшы камфорт, чым на Захадзе.

А хто падлічыў, у якую суму выліваюцца гонка кіраўніка невялікай, эканамічна неразвітай краіны за прэзідэнтамі звышдзяржаў у абслугоўванні самалётамі, верталётамі і аўтамашынамі, у асабістай ахове, «царскія забавы» (накшталт хакейных) пад лозунгам «Играем для вас!», шыкоўны адпачынак? Дарэчы, пра патрэбу правядзення ў краіне маштабных затратных спартыўных гульняў ніхто з грамадзянамі не раіцца. Мэта толькі адна — стварыць адыёзнаму правіцелю, хоць такім прымітыўным чынам, станоўчы імідж.

Вось і ўзнікаюць пытанні: ці магчыма беларусам наладзіць сабе нармальны дабрабыт, не маючы ўмоў для свабоднага жыцця і прадпрымальніцтва, трымаючы на гарбе пачварна разбухлы чыноўніцкі і рэпрэсіўны апарат? Зразумела, не! Ці можна дасягнуць станоўчых вынікаў ва ўмацаванні краіны, калі народ не давярае ўладзе, а тая яго баіцца? Ні ў якім разе! Па галоўных паказчыках развіцця Беларусь прайграе ўсім заходнім суседзям. Напрыклад, у Польшчы ў мінулым годзе сярэдняя зарплата склала 4354 злотых у месяц, што эквівалентна 1035 еўра.

Аўтакраты спрабуюць апраўдацца, пра што сведчыць нядаўняя заява прэзідэнта Расіі У. Пуціна: «Кризисные явления в экономике последних лет, снижение цен на нефть, некоторые другие причины, в том числе внешние ограничения, сделали свое черное дело, и количество людей, живущих за этой чертой (рысай беднасці — С.З.), к сожалению, увеличилось».

Але не час, не абставіны, а самі аўтарытарныя правіцелі ўласнай неэфектыўнай палітыкай у эканоміцы, адміністратыўным уціскам пазбаўляюць грамадзян сродкаў для лепшага жыцця. Усё, што ў неспрыяльных умовах удаецца зарабіць народу, нахабна дзеліць паміж сабою ўладны клан, а звычайным людзям зноў даводзіцца існаваць на ўраўніцельны грашовы мізэр.

Дакладна сфармуляваў дзеянні беларускага і расійскага рэжымаў вядомы палітолаг Д. Арэшкін: «Нас держат за дураков, такова сейчас политика».

Цень аўтарытарызму падае на будучыню. Мы бачым, як цяжка выціскаюцца з душаў старэйшых, ды і многіх прадстаўнікоў маладзейшых пакаленняў негатыўныя савецкія завядзёнкі: прыняцце ўладнай хлусні за праўду, праца толькі па камандзе, абыякавасць да ўласнага лёсу, да долі дзяцей і ўнукаў.

А цяпер прыкінем: што пасля сябе пакіне аўтарытарны рэжым, сутнасць якога палягае ў тым, што ён баіцца праўды, даводзіць свае дзеянні да глупства, да абсурду?

Чыноўнікі-хлусы, як мухі ў павуціне, заблыталіся ў падтасоўках, а таму рэальную сітуацыю ў эканоміцы і сацыяльнай сферы патрэбна будзе яшчэ высвятляць, каб рухацца ў правільным кірунку.

Наплыў ва ўладу малаадукаваных, некультурных, але жорсткіх, сквапных і помслівых людзей кардынальна змяніў маральную атмасферу жыцця. Грубае адміністраванне, нахабная карупцыя, крадзеж бюджэтных грошай набылі маштаб эпідэміі. На тое, каб адвучыць чыноўнікаў ад злачыннай дзейнасці, а насельніцтва ад рабства, спатрэбіцца шмат часу.

Калі нармальна запрацуюць малы і сярэдні бізнес, адукацыя, медыцына, то адпадзе плойма непатрэбных чыноўніцкіх структур. Працаўладкаванне начальнікаў-дармаедаў таксама ўяўляецца няпростым, бо прафесійныя навыкі яны страцілі…

Галаўны боль ад празмернага алкагольнага кайфу ў час сустрэчы Новага года — з'ява непрыемная, але нядоўгая. А вось гіпатэтычнае пахмелле беларусаў і расіян, якія, нягледзячы на трагічны вопыт сталіншчыны, зноў прынялі дыктат аўтакратаў і змірыліся з ім, будзе іншым. Яно можа зацягнуцца і прынесці пакуты наступным пакаленням.

**Сяргей Законнікаў**
**«Свободные новости +»**

ТРАНСПАРТ

# СТУДЕНТ НАКАЗАН ЛИШЕНИЕ СВОБОДЫ С ОТСРОЧКОЙ

**Приговором суда Городокского района осужден несовершеннолетний учащийся ГГАТК**

В суде было установлено, что 17-летний парень в течении года открыто либо в присутствии самого потерпевшего, либо в присутствии посторонних лиц открыто похищал имущество первокурсника, который проживал с обвиняемым в одном общежитии. Так среди похищенного имущества были наушники от мобильного телефона, штатив от селфи-палки, две флешки и многоразовая зажигалка.

Также обвиняемый, находясь в общежитии УО «ГГАТК», около 23.30 зашел в одну из комнат в общежитии и беспричинно, из хулиганских побуждений, нанес несовершеннолетнему учащемуся два удара кулаком в область лица. Обвиняемый объяснил своё поведение тем, что накануне он разбил экран на мобильном телефоне, был в возбужденном состояние и чтобы выплеснуть злобу, решил с кем-нибудь подраться.

Кроме того, 17-летний учащийся признан виновным в том, что он баллончиком с краской нанес надписи на остановке общественного транспорта и на металлических воротах одного из магазина г. Городка, тем самым испортил покрытие данных объектов и нанес материальный вред двум предприятиям.

В судебном заседании обвиняемый вину признал, раскаялся в содеянном, полностью возместил вред, причиненный преступлением, попросил прощения у потерпевшего. Также в судебном заседании были допрошены свидетели, учащиеся УО «ГГАТК», которые показали, что были очень удивлены подобным поведением обвиняемого, с которым они вместе обучаются, характеризовали его только с положительной стороны.

Суд, учитывая смягчающие вину обвиняемого обстоятельства, его удовлетворительную характеристику по местужительстваиучёбы,атакже то, что он впервые привлекался к уголовной ответственности, возместил ущерб потерпевшему и чистосердечно раскаялся в совершенном преступлении, приговорил его к наказанию в виде 1 года 6 месяцев лишения свободы. В соответствии со ст. 77 УК к обвиняемому была применена отсрочка исполнения наказания сроком на 2 года.

Данное наказание даст шанс молодому человеку доказать, что он способен вести законопослушный образ жизни без изоляции его от общества.

**Наталья ЛЕВЯНКОВА**
**старший помощник прокурора Городокского района.**
**Сайт Городокского райисполкома.**

ЭКАЛОГІЯ

# ДАЛУЧАЙСЯ ДА «ПЕРАПІСУ» ВАДАПЛАЎНЫХ ПТУШАК!

**У студзені пройдуць штогадовыя зімовыя ўлікі вадаплаўных птушак. Дапамажы нам «перапісаць» кожную качку Бацькаўшчыны! Сярод месцаў перапісу ёсць і возера Езярышча Гарадоцкага раёну, але варта ўлічыць водаплаўных птушак і на іншых вадаёмах...**

**Навошта?**

Дзякуючы супольнаму зімоваму ўліку мы зможам ацаніць колькі і якіх відаў водна-балотных птушак зімуюць у Беларусі.

Сабраная інфармацыя важная і ў межах нашай краіны, і на сусветным узроўні. Міжнародныя ўлікі водна-балотных птушак пачаліся больш за паўстагоддзя таму. Гэта дае арнітолагам ва ўсім свеце інфармацыю пра амаль 900 іх відаў і дапамагае лепш планаваць дзеянні па іх захаванні.

А яшчэ ўлік птушак — цікавы занятак, багаты на незвычайныя сустрэчы. Ты можаш пабачыць птушак, якія звычайна ў нас не зімуюць, а некаторыя і ўвогуле амаль да нас не залятаюць. У 2017 годзе назіральнікі, што ўлічвалі птушак, пабачылі на зімоўцы чомгу, белалобую гусь, чаротніцу, вялікага баклана, пастушка, качку-свіцьву і качку-шылахвостку... Самай незвычайнай стала сустрэча з нырком-маранкай у Мінску: гэтая паўночная птушка да нас далятае даволі рэдка.

**Калі адбудзецца «птушыны перапіс»?**

Акцыя па ўліку водных і каляводных птушак, якія засталіся зімаваць у Беларусі, будзе праходзіць на працягу ўсяго студзеня. Для ўліку вельмі зручныя марозныя дні, бо птушкі будуць гуртавацца на адкрытых, не зацягнутых лёдам участках вадаёмаў. Усе як на далоні!

Найлепш пачынаць улік праз 3-4 гадзіны пасля ўзыходу сонца, а заканчваць прыблізна а 15-й гадзіне.

Падрыхтуйся да самых актыўных дзён уліковай кампаніі: 19, 20 і 21 студзеня. Нам важна, каб у гэтыя дні на ўлікі выйшла як мага больш людзей. Гэта значна павысіць дакладнасць выніку.

**Як праводзіць улік?**

Мы падрыхтавалі для цябе памятку па ўліку птушак. Спампуй і карыстайся!

Улік вадаплаўных ідзе па ўсёй Беларусі. Прагуляйся да найбліжэйшага вадаёму, палічы, колькі там якіх відаў вадаплаўных і каляводных птушак, ды занясі ўсе дадзеныя ў анкету.

Карыстайся вызначальнікам птушак. Калі усё ж пазнаць від не атрымліваецца, запішы агульную колькасць птушак, сфатаграфуй ці прынамсі апішы невядомыя табе віды і пазнач іх колькасць таксама. Фота можаш даслаць нам на info@ptushki.org або запампаваць наwww.flo-rafauna.by— спецыялісты дапамогуць вызначыць, што гэта за птушка.

Памятай, што для кожнага ўліку запаўняецца асобная анкета! Напрыклад,калі ты ў адзін дзень будзеш улічваць птушак на рацэ і на возеры, а праз некаторы час правядзеш паўторны ўлік на тым жа возеры, то табе трэба будзе падаць тры анкеты.

Даслаць нам анкету можна ў электронным або папяровым выглядзе.

**Дзе шукаць птушак?**

Шукай тут: участкі рэк, якія не замярзаюць; месцы скіду вады з вадасховішчаў ды азёраў; ставы гарадскіх ачышчальных збудаванняў; ставы-ахаладжальнікі ДРЭС, ЦЭЦ.

Галоўнае, памятай пра бяспеку і заставайся на беразе!

Мы падрыхтавалі анлайн-табліцу вадаёмаў для правядзення ўліку птушак, сярод якіх ты можаш абраць самы зручны для цябе. Для гэтага трэба пакінуць свой каментар (імя, па жаданні — кантакты) у ячэйцы насупраць абранага вадаёму.

Табліца будзе абнаўляцца цягам акцыі. З яе будзе відаць, якія месцы ўжо маюць улікоўшчыкаў, а якія яшчэ не.

Найперш звяртай увагу на вылучаныя жоўтым колерам вадаёмы: звесткі па іх маюць найбольшую важнасць. Але калі ты хочаш зладзіць «перапіс» у месцы, якога няма ў спісе, — не праблема. Мы можам дадаць яго ў табліцу.

**На што яшчэ звяртаць увагу?**

Паўторныя ўлікі на адным і тым жа вадаёме даюць карысныя звесткі. Іх варта праводзіць не часцей, чым раз на дэкаду.

Калі птушак на вадаёме няма ці ён увесь пакрыўся лёдам, таксама пазначай гэта ў анкеце.

Звяртай увагу на акальцаваных птушак і пазначай іх від, нумар кольца, дату і дакладнае месца назірання.

**Хочаш пазнаёміць з птушкамі іншых?**

Ты можаш далучыць да ўліку сваіх сяброў, суседзяў і проста ўсіх ахвочых.

Калі ты хочаш пабыць для іх птушыным экскурсаводам, паведамі пра гэта нам па тэлефонах (+375 17) 369 76 13, (+375 29) 223 06 13, (+375 29) 101 68 87або праз электронную пошту info@ptushki.org.

Звашай згоды мы размесцім вашыя кантакты на нашым сайце і ў анлайн-табліцы па ўліку, каб ахвочыя з вамі маглі звязацца і запісацца на экскурсію.

**Куды дасылаць анкеты?**

Анкеты ўліку дасылай у Сакратарыят АПБ не пазней за18лютага2018года: у электронным выглядзе — на адрас: info@ptushki.org; у папяровым выглядзе — на адрас: ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны«,вул. Парніковая, д. 11, пам. 4,220114, г.Мінск.

Усе ўдзельнікі «птушынага перапісу» атрымаюць поўную інфармацыю пра яго вынікі.

Улікі водна-балотных птушак ладзяць ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» і Навукова-практычны цэнтр па біярэсурсах Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Далучайся да ўліку птушак і заахвочвай сяброў!

**http://ptushki.org**

АДЗІНЫ ПАЛІТЫК

# ПОЙДЕТ ЛИ ЛУКАШЕНКО НА ПЕРЕСТРОЙКУ?

**Постиндустриальная экономика требует и нового человека, провоцирует изменения в политике, и это главный вызов для нынешней белорусской системы…**




С 2018 годом Александр Лукашенко поздравил белорусов в несколько необычной для себя стилистике. Если в прежние годы президент твердил прежде всего о стабильности и достижениях белорусской модели, то на этот раз подчеркнул, что «главное отличие нашего времени — его стремительный бег. Идти шагом сегодня равносильно остановке, стоять — это отступать назад». Более того, глава государства обратился в первую очередь к молодежи: «…Дерзайте, творите! Для вас открыты все двери!.. За вами будущее страны!»

**Подул ветер перемен?**

Для сравнения: годом ранее, на рубеже 2017-го, молодежь в президентском обращении была лишь на третьем месте — после женщин (которых Лукашенко призвал рожать) и старшего поколения. И вообще тогда акцент был на том, что «сохранить Беларусь островком стабильности и спокойствия было непросто. Но мы это сделали».

Однако в конце прошлого года риторика официального лидера стала принципиально иной. Он раз за разом подчеркивал, что не хочет выглядеть ретроградом.

Но главное — не риторика. Лукашенко подписал ряд документов, призванных дать простор бизнесу и строительству IT-страны. Да, документы половинчатые, но предпринимательское лобби их приветствует, а уж иные бизнесмены-айтишники и вовсе до потолка прыгают.

Так что, и у нас подул ветер перемен? Способен ли бессменный белорусский президент, много лет козырявший своим консерватизмом, затеять нечто вроде перестройки а-ля Горбачев?

**Постиндустриальный вызов для авторитарной системы**

Перестройка у нас уже идет, но «очень интересно, по-белорусски», считает политолог Сергей Николюк. «Государственный сектор — эти 70% — как жил, так и живет, все объявленные перемены его не касаются. Но вместе с тем государство вынуждено вводить новые принципы (даже элементы английского права) для тех областей, которые не может само развивать, — это и Парк высоких технологий, и сотовая связь, и отдельные направления в финансовой сфере… Условие: только не вмешивайтесь в политику», — пояснил Николюк в комментарии для Naviny.by.

Он добавил: речь идет не только о высоких технологиях и программистах, параллельно отпускают на вольные хлеба часть «обычного» населения, особенно в регионах, где сильна безработица, — «занимайтесь ремеслом, пеките булочки и так далее (но если отравите людей — ответите)».

Мы, как и весь мир, движемся в сторону постиндустриальной экономики, однако ей требуется человек иного типа, с иными ценностями — человек, ориентированный на саморазвитие. Опыт Южной Кореи, Тайваня и ряда других стран показывает, что с переходом от индустриального общества к постиндустриальному возникает и потребность перехода от авторитаризма к демократии. И в этом кроется главный вызов для Лукашенко, считает Николюк…

**Заложники «элегантных побед»**

У Лукашенко к Михаилу Горбачеву сложное отношение. С одной стороны, белорусский президент козырял тем, что в бытность прогрессивным директором совхоза попал, мол, в фавор к генсеку ЦК КПСС и даже привлекался к разработке реформ.

С другой стороны, Лукашенко не раз заочно корил Горбачева за мягкотелость и развал страны. Из этих тирад следовало, что уж он, Лукашенко, такой мягкотелости не допустит.

И действительно, пока перемены в его исполнении выглядят намного осторожнее, чем в исполнении последнего советского генсека. Тот ведь с самого начала не только призвал к ускорению в экономике, но и объявил политику гласности, дал волю прессе. А затем пошел на гибридные (с использованием административного ресурса, но и с сильным элементом конкуренции) выборы на Съезд народных депутатов СССР.

В Беларуси медиасфера остается под жестким контролем, журналистов «Белсата» перманентно штрафуют, в декабре был заблокирован сайт «Белорусский партизан», келейно готовится новая редакция закона о СМИ, которая, как предполагается, сильнее зажмет интернет, соцсети.

Выборы в местные советы проходят вяло, скучно, по старым правилам. Лукашенко пока не пошел даже на косметические изменения избирательного законодательства, проект которых был разработан группой своих же людей во главе с председателем Центризбиркома Лидией Ермошиной…

**Беларусь останется подмороженной**

Лукашенко тоже опасается майданов, и прошлогодние «дармоедские» протесты эту опаску лишь усилили. В условиях исчерпанности «белорусской модели» невозможно обеспечить приличный рост доходов электората (кажется, до пресловутой тысячи рублей среднего заработка в прошлом году так и не дотянули). Более того, приходится урезать блага социального государства — поднимать коммуналку, стоимость проезда в транспорте, брать с населения все больше денег за медицину и образование.

В итоге пропагандистские мифы рассыпались, имидж «государства для народа» и его лидера потускнел. После разгрома НИСЭПИ в 2016 году мы уже не узнаём каждый квартал электоральный рейтинг президента. Но можно предположить, что закрытые опросы на этот счет его не радуют.

Во всяком случае, поздравляя электорат с 2018 годом, Лукашенко выглядел мрачно.

В общем, параллели с горбачевской перестройкой, частью которой было раскрепощение СМИ, общественной активности, пока не катят.

Вспомним: Горбачев пошел на отмену статьи конституции о руководящей роли КПСС (это как у нас отказаться от указов и декретов президента), а затем нашел в себе силы под занавес 1991 года отказаться от власти, чтобы не проливать кровь. Лукашенко заявлял, что готов защищать свою власть, «если надо — с оружием в руках, если надо — один».

Конечно, он тоже не хочет крови. А потому постарается держать страну в подмороженном состоянии. Так что на политические реформы надеяться не стоит. Да и в экономике преобразования будут половинчатыми, потому что боязно трогать старый базис.

Другое дело, что постиндустриальное общество — это действительно беспрецедентный вызов той системе, которую сконструировал первый белорусский президент с его аграрно-индустриальным мировоззрением советского типа (пятилетки, вал, селекторные совещания и пр.). И уже в нынешнем году мы, возможно, увидим характерные коллизии.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**«Белапан»**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# ВЫБАРЫ ЯК СРОДАК ДАСЯГНЕНЬНЯ ДУШЭЎНАГА КАМФОРТУ

**Сэнс выбараў, паводле Ярмошынай, — гэта забесьпячэньне псыхалягічнага камфорту выбарчых камісій. Легітымнасьць выбарчага працэсу — на другім пляне.**

Пра тое, што ў краіне праходзіць выбарчая кампанія, ведаюць толькі моцна ангажаваныя ў палітыку людзі. Паводле старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзіі Ярмошынай, толькі пры абраньні дэпутатаў Менскага гарадзкога і Магілёўскага абласнога саветаў у кожнай выбарчай акрузе будзе альтэрнатыва. У іншых абласьцях пры выбары абласных саветаў шмат безальтэрнатыўных акругаў. У Гарадзенскай вобласьці такіх больш за палову. А ў саветах ніжэйшага роўню, казала Лідзія Ярмошына, у гэтым сэнсе справы яшчэ горшыя.

Усё менш кандыдатаў вылучае апазыцыя. Напрыклад, паводле падлікаў нашага журналіста Ўладзімера Глода, партыя «Справядлівы сьвет» сёлета вылучыла 72 кандыдаты, у той час як на мінулых мясцовых выбарах у 2014 годзе — 119. Адпаведна, АГП — 78 і 110, Партыя БНФ — 15 і 35 чалавек.

Улады так доўга змагаліся з выбарамі, што нарэшце дасягнулі мэты. Мясцовыя выбары не цікавыя ні ўладзе, ні апазыцыі, ні грамадзтву. Але ўлады загадзя падрыхтаваліся да такога фіналу, яшчэ раней унёсшы зьмены ў выбарчае заканадаўства.

Ня ўсе, мусіць, ведаюць, што з 2013 году дзейнічае норма, паводле якой мясцовыя выбары праходзяць па мажарытарнай сыстэме аднаснай большасьці. Гэта значыць, толькі ў адзін тур — другі тур не прадугледжаны. Прычым парогу яўкі няма. Колькі б выбарцаў ні прыйшло на выбарчыя ўчасткі — лічыцца, што выбары адбыліся.

Ажыцьцявілася мара палітычнага кіраўніцтва: выбары можна праводзіць і бяз выбаршчыкаў

Цяпер ня трэба нацягваць яўку, гнаць людзей на датэрміновае галасаваньне, хадзіць па кватэрах са скрынямі. Ажыцьцявілася мара палітычнага кіраўніцтва: выбары можна праводзіць і бяз выбаршчыкаў, дакладней — зь іх мінімальнай колькасьцю. То бок калі з 1000 выбаршчыкаў у акрузе на ўчастку прыйдзе 10 чалавек, зь іх 3 прагаласуе за кандыдата А, а астатнія кандыдаты атрымаюць па 2 галасы, то пераможцам будзе абвешчаны А. Ад выбарчых камісій ня трэба вялікіх намаганьняў, каб атрымаць патрэбны вынік, іх работа моцна спрашчаецца.

Па звыклым сцэнары прайшло фармаваньне выбарчых камісій. Толькі адзінкі апазыцыянэраў трапілі ў іх. Прычым Лідзія Ярмошына вылучыла накont гэтага дзіўную аргумэнтацыю. Здавалася б, беларускія выбары ўжо нічым ня могуць зьдзівіць. Аднак не. У інтэрвію часопісу Адміністрацыі прэзыдэнта «Беларуская думка» старшыня Цэнтравыбаркаму патлумачыла згаданую праблему так:

«Што тычыцца неўключэньня ў склады камісій прадстаўнікоў апазыцыі… Пры фармаваньні выбарчых камісій ацэньваецца ў першую чаргу здольнасьць прэтэндэнта працаваць у калектыве. Бо выбарчая камісія — калектыў, дзе выпінаньне сваёй палітычнай пазыцыі шкодзіць агульнай справе. Думаю, менавіта гэтая акалічнасьць улічвалася пры ўключэньні прадстаўнікоў апазыцыйных структур у выбарчыя камісіі».

Як мне падаецца, тут усё пастаўлена з ног на галаву. Дзеля чаго праводзяцца выбары? Ва ўсіх краінах сьвету — дзеля таго, каб забясьпечыць легітымнасьць уладаў. Самі выбаркамы — гэта сродак дасягненьня гэтай мэты. Прысутнасьць апазыцыі ў выбарчых камісіях — дадатковы фактар легітымізацыі.

А ў Беларусі ўсё наадварот. Сэнс выбараў, паводле Ярмошынай, — гэта забесьпячэньне псыхалягічнага камфорту выбарчых камісій. Легітымнасьць выбарчага працэсу — на другім пляне. Сродак ператвараецца ў самамэту. Дзеля таго, каб выбарчым камісіям было камфортна, ахвяруюць легітымнасьцю і саміх выбараў, і створаных у выніку іх органаў улады — мясцовых саветаў.

Калі кіравацца такой лёгікай, то можна ісьці далей. Трэба правесьці выбары дзеля таго, каб забясьпечыць душэўны камфорт самой Лідзіі Міхайлаўны. Што для гэтага трэба рабіць? Каб апазыцыя сядзела ў бульбе і не высоўвалася? Ці каб не крытыкавала старшыню Цэнтравыбаркаму? У любым выпадку гэта новае слова ў беларускіх выбарчых тэхналёгіях.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ТАКАЯ ПРАПАГАНДА

# «З 1991 ГОДА НАША КРАІНА АКУПАВАНАЯ»

**У інтэрнэт трапіла шакуючае ВІДЭА семінара для беларускіх ідэолагаў. Лектар расказвае пра масонаў і пра тое, што здарвецца з дзяўчатамі, якія агаляюць жывот. А таксама адпраўляе на сайт пра «глабальны надыўдзейскі прэдыктар».**

Увагу «Нашай Нівы» прыцягнуў выкладчык Інстытута бізнэсу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Андрэй Іваноў — улетку ён атрымаў ухвальную грамату ад «міністра моладзі ДНР».

Калі мы шчыльней зацікавіліся гэтым чалавекам, то выявілі, што ў БДУ ён не працуе ад верасня 2017 года: па словах жонкі, перайшоў на работу ў дзяржаўнае таварыства «Веды», якое мае задачай «удзел у ідэалагічнай рабоце дзяржаўных органаў».

З самім Івановым мы звязацца не змаглі, але ягоная жонка сказала, што муж цяпер чытае лекцыі па ідэалогіі для работнікаў райвыканкамаў і аблвыканкамаў.

Што за лекцыі можа чытаць беларускім чыноўнікам аматар «ДНР»? Пабачыць тыповы ўзор такой лекцыі для гарадскіх ідэалагічных работнікаў прадпрыемстваў, установ адукацыі і сілавых органаў можна на Ютубе. Справа адбывалася ў Нясвіжы ў 2015 годзе, але, мяркуючы па запісах Іванова ў сацыяльных сетках, яго погляды з таго часу не змяніліся.

Пачынаецца семінар для ідэолагаў з заявы, што сёння Беларусь жыве ва ўмовах вайны, «якая яшчэ больш выродлівая, чым тая, калі фашысты палілі вёскі». Дык хто ж з кім ваюе? Спікер спачатку сыпле безасабовымі дзеясловамі накшталт «генацыд ажыццяўляецца», «кантроль праводзіцца», але ўрэшце зрывае маскі, называючы ворагаў — гэта ЗША, Брытанія, іншыя краіны Еўропы. У пацвярджэнне Іваноў перакладае надпіс на даляравай купюры з латыні: «Сусветны парадак назаўсёды». «Яны спрабуюць утрымаць гэты парадак, але не могуць! Не ведаюць, што рабіць: Ісламскую дзяржаву стварылі, наркатрафік з Афганістана пусцілі праз нашую тэрыторыю, у Еўропе пастановачныя тэракты, на Данбасе вайнузапусцілі.Аленеатрымліваецца», — адзначае ён.

"Мы заўсёды былі разам — вялікая краіна, потым нас падзялілі і спрабуюць даказаць, што кожны сам за сябе. Нас так перадзяўбуць, як арэшкі. Таму сёння пытанне вельмі сур'ёзнае: дзе мы бачым сваю будучыню? Ярмы мусім бачыць у гістарычным мінулым», — вучыць Іваноў ідэолагаў…

Праваобраз ідэальнага грамадства і эканомікі, паводле Іванова, быў пабудаваны пры Сталіне. Гэтым яго веданне эканомікі не абмяжоўваецца — ён дэманструе яго ідэолагам на ўзоры з роварамі. «Давайце ўявім сітуацыю, — кажа ён. — У Нясвіжы стаіць камбінат, які не можа выпусціць тую колькасць ровараў, якая патрэбна вам і вашым гасцям — ну не атрымліваецца! Не хапае магутнасці! Што будзем рабіць? А давайце надрукуем беларускіх рублёў — я вам прапаную — на іх купім цэмент у нас жа, у Касцюковічах! У нас ёсць рабочыя рукі, ёсць зямля пад Нясвіжам. І пабудуем новае прадпрыемства! На свае ж, надрукаваныя грошы! І выпусцім больш ровараў! Што з цаной адбудзецца? Яна ўпадзе, правільна! А нам эканамісты са ступенямі кажуць: „Нельга грошы друкаваць, толькі ў доўг браць можна". А гэта залежнасць краіны ад знешняга эмісійнага цэнтра, гэта каланіялізм! Навошта мы гэта робім? Калі гэтыя ісціны ведаюць мае школьнікі, мае студэнты нават! Чаму мы сёння не ўкладваем свае ўласныя рублі, ні ад каго не залежачы?»…

Часам Іваноў перарывае сваё выкрыццё сусветнай змовы для інфармавання пра іншыя важныя тэмы. Ад яго ідэолагі даведаліся, што дзяўчыне нельга агаляць жывот — «народзяцца вырадкі». «Каб аднавіць свой біяпалярны энергаабмен пасля келіха віна, трэба інтэлектуальна працаваць тры гады», — тлумачыць Іваноў. «Японскія тэхналогіі спісаныя з савецкіх часопісаў для моладзі», — працягвае ён. «Якія, нафіг, у Еўропе каштоўнасці? Там пустэча», — задаецца рытарычным пытаннем лектар і падсумоўвае, што «з 1991 года краіна акупаваная ... Яны чакаюць, калі можна будзе нанесці вырашальны ўдар».

**Паўтарагадзінная прамова лектара насычаная псеўдагістарычнымі байкамі, антынавуковымі сцверджаннямі і месцамі мяжуе з экстрэмізмам.**

Іваноў папярэджвае, што прысутныя мужчыны павінны быць гатовыя надзець камуфляж і ўзяць у рукі аўтаматы. Не абыходзіцца без згадак пра сіянізм і «Святую Русь», сакральнае значэнне рускай мовы ў пабудове рускай цывілізацыі. «Вы павінны чытаць гэтыя лекцыі кожны дзень! На тых прадпрыемствах, якія вам даступны, ва ўсіх сацыяльных сетках. Жонка мужу хай чытае», — звяртаецца ён да ідэолагаў і абяцае падказаць «сайты з кніжкамі, дзе можна пачытаць больш падрабязна».

Асабліва іранічна выглядаюць высновы з вуснаў гэтага лектара: «Чалавек знешне застаецца такім жа, але інфармацыйны стан мяняецца. Наглядзеўся ўсялякіх карцінак, яму сказалі, што там — вораг, і ён пачынае верыць. Так мяняецца лінія паводзін цэлага народа. А калі гадуецца цэлае пакаленне ва ўмовах нянавісці, то яшчэ пакаленне трэба, каб гэта змяніць. І вы ўяўляеце, на якім узроўні цяпер праблемы ў нашых еўрапейскіх суседзяў? Колькі ім пакаленняў трэба?».

Пасля фінальнага слова і апошняй рэкламы становіцца ясна, чым натхняецца Іваноў — ён актыўна піярыць расійскі рух «КОБ» і беларускага "навукоўца" Нікіценку. Нікіценка фігураваў у нашым рэпартажы пра чарнасоценскую канферэнцыю ў Мінску. Але што такое «КОБ», які раіць ідэолагам Іваноў? "КОБ" перакладаецца як «Канцэпцыя грамадскай бяспекі». Прыхільнікі гэтай тэорыі вераць у існаванне «глабальнага надыўдзейскага прэдыктара», створанага 3500 год таму 22 старажытнаегіпецкімі «жрацамі-іерафантамі», які кіруе, у тым ліку, і «Сусветным масонскім урадам».

Адметна, што шэраг кніг «КОБа» прызнаныя ў Расіі экстрэмісцкімі. На сайце, які Іваноў раіць пачытаць ідэолагам, можна знасці кнігі з назвамі "Яўрэйскі фашызм", «Старажытнаегіпецкія карані сусветных бедаў», «Майстар і Маргарыта: гімн дэманізму».

Сваю датычнасць да руху «КОБ» Іваноў не хавае і ўсяляк згадвае пра сяброўства ў гэтай секце ў сваіх сацыяльных сетках.

*(скарочана)*

**Арцём Гарбацэвіч**
**"Наша Ніва"**

СПРАВЫ ЦАРКВЫ

# ЗА ЧТО ЦЕРКОВЬ ОТКАЗАЛАСЬ ОТПЕТЬ ГОДОВАЛОГО МАЛЬЧИКА

**31 декабря 2017 года в городе Запорожье 39-летний мужчина упал прямо на годовалого мальчика, которого папа провозил в коляске под окном многоэтажки. Самоубийца погиб, мальчик тоже... Этот случай остался бы рядовой трагедией, если бы не последовавшие события.**

Когда спустя несколько дней обезумевшие от горя родители повезли хоронить малыша, священник Евгений Молчанов, принадлежащий к УПЦ Московского патриархата, отказался отпеть младенца. «Ребенок — некрещеный, а церковь — незаконная», — объяснил ошеломленным родителям священнослужитель религии добра, прощения и любви.

Начальник священника — Лука, митрополит Запорожский и Мелитопольский, одобрил поведение своего подчиненного.

«Если бы он нарушил канон, он бы понес ответственность перед Богом», — заявил Лука.

А немного погодя, разъяснил: «Господь за такие поступки наказывает до седьмого колена».

Между тем далеко не все на Украине одобряют безмятежную уверенность митрополита Луки и его подчиненных в том, что Господу было угодно смачно харкнуть в душу родителям погибшего младенца и напомнить им — в этот самый страшный в их жизни момент, — что их дитятко отправится в ад, ибо не было крещено в единственном месте, которое обладает утвержденной самим Господом монополией на выписывание пропусков в рай.

По всей Украине началась акция: люди несут к церквям, подчиняющимся Московскому патриархату, детские игрушки со словами: «Дитя не виновато». Начались уже и стычки: в воскресенье люди в масках профессионально избили двух волонтеров, принесших такую куклу к запорожскому храму Петра и Февронии.

Если следовать логике митрополита Луки, эти громилы были, вероятно, ангелы Божии, специально посланные с небес, чтобы покарать безумцев, выступающих против Московского патриархата, а маски они надели, чтобы сияние их лиц не ослепило прохожих.

То, что случилось, на самом деле рано или поздно должно было случиться. «У меня двое детей, и один крещен в Московском патриархате, а другой — в Киевском. Когда я прихожу в храм и подаю записочку „за здравие", меня всегда спрашивают, в каком приходе крещены дети. За того, что крещен в Киевском, служить отказываются», — объяснила мне киевская приятельница.

Московский патриархат на Украине постоянно напоминает urbi et orbi, что он единственный правообладатель на мирное учение Господа нашего Иисуса Христа, велевшего любить своих врагов и бдительно разоблачать еретиков.

В Почаевской лавре Тернопольской области прямо на дверях Лавры висит наглядный тому пример: картина под названием «Древо Христианской Церкви» с отсеченными и извергнутыми из нее еретическими ветвями, включая католиков, лютеран, адвентистов седьмого дня и, разумеется, преданный анафеме Киевский патриархат. Всем этим срамоимцам доступ на территорию Лавры мира, прощения и любви, видимо, запрещен.

К еретикам относятся, видимо, даже добровольцы АТО. Многие «московские» священники отказываются их отпевать, мотивируя это тем, что те участвовали в «братоубийственной войне». Это замечательное миролюбие выглядело бы куда более искренним, если бы в Донецкой Святогорской лавре еще в самом начале АТО не накрыли целую банду с оружием и если бы не под эгидой Московского патриархата перед самой «братоубийственной войной» по Украине путешествовали бы «Дары волхвов», начальником охраны при которых состоял никто иной, как Игорь Гиркин, он же Стрелков.

Кстати, никто не слышал, чтобы священники московского подчинения отказались отпевать участников «братоубийственной войны» с другой стороны. Использование церкви в политических целях старо, как само христианство. Как и компартия, церковь всегда колебалась вместе с линией властей предержащих.

С самого своего появления эта религия мира, добра и любви обладала исключительной способностью делиться на фракции, каждая из которых кляла другие, называя их еретиками. И далеко не всегда причиной ссоры с еретиками становились чисто теоретические разногласия. Порой наоборот — шкурные интересы и личные распри становились причиной теологических расхождений. Христианам было предписано любить врагов, но им же было предписано проклинать еретиков, и поэтому все внутренние враги мылом или катанием объявлялись еретиками.

Но одно дело в истории, другое дело — сейчас. И тут как бы не нарваться. Российское телевидение рассказало о мальчике, которого «укры» якобы распяли на доске объявлений. Что оказалось ложью. А церковь Московского патриархата отказалась отпеть годовалого мальчика. И это правда.

**Юлия Латынина**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.01.2018 у 18.10** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.